Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# ВЕСТКІ з СССР

ЛІПЕНЬ, 1934 г. — ВІЛЬНЯ — СШЫТАК ДЗЕВЯТЫ

## КАЛГАСЬНІКІ БССР сталі на шлях ЗАМОЖНАГА ЖЫЦЬЦЯ

**(З АРТЫКУЛА САКРАТАРА ЦК КП(б)Б тав. ГІКАЛО, ЗЬМЕШЧАНЫ Ў «ПРАВДЕ» за 28 - V - 34 г.).**



М. Ф. ГІКАЛО

Беларусь закончыла сяўбу 23 мая. Гэтым самым яна выйшла ў шэраг перадавых абласьцей і краёў СССР. На 25 мая рэспубліка перавыканала дадатковы плян збожжавых у 65.000 га і закончыла сяўбу лёну.

У 1932 г. веснавая сяўба цягнулася да 20 чэрвеня. Раўняючы данныя сяўбы сёлетняга году з папярэднімі двумя гадамі, ясна бачыш, што найшырэйшыя масы калгасьнікаў чэсна па гаспадарску адносяцца цяпер да калгаснай працы. Партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі ў сёлетнім годзе лепш працавалі, лепш кіравалі калгаснай вытворчасьцю, навучыліся больш глыбока і ў той-жа час больш канкрэтна падыходзіць да кожнага пытаньня.

Асабліва важнай акалічнасьцю мы лічым тое, што аднаасобнікі ў гэтым годзе шлі сьледам за калгасамі па тэмпах сяўбы.

**У ЧАСЕ СЯЎБЫ ПА ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ МЫ МЕЛІ ЗНАЧНЫ ПРЫЛІЎ АДНААСОБНІКАЎ У КАЛГАСЫ. У НЕКАТОРЫХ РАЁНАХ, НАПРЫКЛАД У РАГАЧОЎСКІМ, АМАЛЬ ПАДВОІЎСЯ ПРОЦАНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.**

Трэба адзначыць сьціслыя тэрміны сяўбы такіх культур, як лён і авёс. Плян пасеву лёну да 15 мая 1934 г. быў выкананы на 94% у той час, як у 1933 г. 15 мая плян быў выкананы толькі на 30%. Сяўба яравых збожжавых 15 мая 1934 г. скончана з перавышэньнем на 5,5%, а ў 1933 г. на тую-ж дату было выканана 52% пляна.

Веснавая сяўба 1934 г. азначае сабой пералом у вёсцы Савецкай Беларусі, паказаўшай нябачаныя раней тэмпы і якасьць сяўбы. Сяўба 1934 г. прайшла, па-першае, пад знакам масавага сацыялістычнага спаборніцтва, у якое былі ўцягнуты раёны, сельсаветы, калгасы, брыгады і шэраговыя калгасьнікі. Сяўба 1934 г. прайшла, па-другое, пад знакам разгорнутай барацьбы за якасьць сяўбы. Барацьба за якасьць стала здабыткам мас. У камісіях па якасьці прымалі удзел дзесяткі тысяч людзей. У гэтым факце яскрава адлюстроўваюцца новыя адносіны сялянскіх мас да калектывізацыі і калектыўнай працы, да рэзультатаў сваёй працы. Шэраговы калгасьнік ужо зразумеў, што калгас—яго родная справа. Вось дзеля чаго так бязьлітасна змагаецца калгасная маса з гультаямі, якія даюць дрэнную якасьць.

Мы маем зараз добрыя ўсходы яравых, якія абяцаюць высокі ўраджай. Віды на ўраджай азімых таксама здавальняючыя. Гэта—рэзультат высокай якасьці і сьціслых тэрмінаў сяўбы.

Кожны калгас, саўгас павінен неадкладна арганізаваць сапраўдную ахову і абарону ўраджаю. Трэба мець на ўвазе, што клясавы вораг—кулак, белагвардзеец — і ў гэтым годзе будзе яшчэ прабаваць шкодзіць сацыялістычнай гаспадарцы, сацыялістычнай уласнасьці.

Калгасьнікі і аднаасобнікі Беларусі, савецкія, партыйныя органы з пэўнасьцю ўваходзяць у пэрыяд падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі. Яны палаюць жаданьнем дабіцца ў уборцы яшчэ большых посьпехаў, чым у часе сяўбы. І яны даб'юцца гэтага. Зарукай гэтага служыць той вялізарны вытворчы і палітычны ўздым шырокіх працоўных мас вёскі—калгасьнікаў і аднаасобнікаў, які праявіўся ўжо вясной.

**КАЛГАСЬНІКІ БЕЛАРУСІ Ў РЭЗУЛЬТАЦЕ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ 1934 г. МОЦНА СТАЛІ НА ШЛЯХ ЗАМОЖНАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ.**

Стаўка беларускіх нацыяналістаў, якія рабілі спробы ў саюзе і па загаду замежных імпэрыялістаў адарваць Савецкую Беларусь ад СССР, якія імкнуліся накіраваць сельскую гаспадарку па шляху сталыпінскіх хутароў—гэта стаўка канчаткова біта. Працоўнае сялянства Савецкай Беларусі сваёй самаахвярнай барацьбой на палёх веснавой сяўбы 1934 г. ярка прадэманстравала сваю бязьмежную адданасьць справе рабочае клясы, партыі, справе Леніна—Сталіна, таксама як яно прадэманстравала гэта 14 год таму назад на палёх Беларусі ў барацьбе за Савецкую ўладу проціў белапольскіх акупантаў.

## ПЕРШАГА ЖНІЎНЯ

**20-ГОДЗЬДЗЕ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ СУСТРАКАЕМ У ХВІЛІНУ ШАЛЁНАЙ ПАДРЫХТОЎКІ НОВАЙ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ І КОНТРРЭВАЛЮЦЫЙНАГА НАПАДУ НА СССР. МАСАВЫМІ БАЯВЫМІ ДЭМАНСТРАЦЫЯМІ, ПАХОДАМІ І ПАЛІТЫЧНЫМІ ЗАБАСТОЎКАМІ Ў ДЗЕНЬ 1-ГА ЖНІЎНЯ ВЫСТУПАЙМА НА АБАРОНУ СВАЁЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ — СССР, СУПРОЦЬ ВАЕННЫХ ПЛЯНАЎ ПОЛЬСКІХ І МІЖНАРОДНЫХ ІМПЭРЫЯЛІСТАЎ!**

# ГЕРОІ САВЕЦКАГА САЮЗУ

Працоўныя СССР у чэрвені м-цы г. г. з вялікай радасьцю і ўздымам спаткалі чэлюскінцаў.

Чэлюскінцы (навуковая экспэдыцыя на ледаколе «Чэлюскін») накіраваліся на поўнач летам 1933 г., каб асвоіць вялікі паўноўчны марскі шлях,—шлях, якім можна было-б карыстацца для перавозкі грузаў з Архангельска і Ленінграда у Сібір, на Далёкі Усход.

Паўночная стыхія, льды зьнішчылі ледакол «Чэлюскін», і экспэдыцыя апынулася на вялікай плывучай крызе лёду сярод палярнай цемры, сьнежных завірух, марозаў. Экспэдыцыя на чале з прафэс. Шмідтам і капітанам Вароніным змагаецца з разьюшанай стыхіяй поўначы, не губляючы надзей на выратаваньне. Экспэдыцыя на гэтай жа плывучай крызе пабудавала для сябе лягер, праз радыё навязала сувязь з зямлёю.

У лягеры ўвесь час была выключная арганізаванасьць, увесь час панаваў бадзёры настрой, вера ў перамогу стыхіі. Гэты настрой, веру ў перамогу падрымоўвалі кіраўнікі экспэдыцыі, перадусім прафэсар Шмідт. Чэлюскінцы не без падставы былі ўпэўнены, што Савецкі Урад, працоўныя СССР пасьпяшаць ім на дапамогу, выратуюць іх.

І сапраўды справе ратаваньня чэлюскінцаў была надана вялікая ўвага. Створана была спэцыяльная ўрадавая камісія, была мабілізавана ўвага ўсяе краіны, усіх працоўных. Правадыр партыі тав. Сталін непасрэдна кіраваў усёй работай па выратаваньню чэлюскінцаў.

Савецкі ўрад мабілізаваў і паслаў на дапамогу Чэлюскінцам ледаколы «Красін», «Малыгін», паслаў 7 самалётаў пілётаваных праз Ляпідзеўскага, Леванеўскага, Молакава, Каманіна, Сьлепнёва, Вадап'янава, Дароніна.

Савецкія лётнікі на савецкіх самалётах праз сьнежныя зьвірухі, у мароз—рынуліся на ратаваньне чэлюскінцаў. Ніякія цяжкасьці іх не затрымоўвалі. Даронін, Вадап'янаў сьпяшаючыся на дапамогу чэлюскінцам зімою зрабілі грамаднейшы пералёт з Хабароўска (5 тысяч кілёмэтраў). Лётнікі без адпачынку і сну ўпарта змагаліся, каб выканаць ускладзены на іх абавязак — выратаваць чэлюскінцаў.

Нарэшце, лётнікі ў лягеры чэлюскінцаў. У кожнай буржуазнай краіне перш за ўсіх ратавалі-б кіраўнікоў. У краіне Савецаў робіцца інакш. Лётнікі першымі забіраюць з плывучай крыгі жанчын і дзяцей Потым забіраюць па-парадку хворых і слабейшых, не гледзячы на тое, ці гэта матрос, ці капітан, ці вучоны, ці качагар. Праз некалькі дзён усе чэлюскінцы—104 чалавекі былі перавезены на зямлю і на крызе, на тым месцы, дзе быў іх лягер, астаўся толькі чырвоны сьцяг.

Калі чэлюскінцы сядзелі на крызе сярод бушуючага акеяну, буржуазныя газэты пісалі, што ўратаваць іх не ўдасца. Але выйшла не так, як яны хацелі. Савецкі Саюз яшчэ раз даказаў сваю сілу, магутнасьць. Яшчэ раз атрымаў вялізарную перамогу над дзікай разьюшанай стыхіяй дзякуючы сьмеласьці і адданасьці сваіх геройскіх сыноў, дзякуючы сваёй высокай тэхніцы, бальшавіцкай арганізаванасьці і настойлівасьці.

Уратаваньне чэлюскінцаў гэта — вялізарная перамога Савецкага Саюзу і ўсяго міжнароднага пралетарыяту. На такое геройства, на такую адвагу і рашучасьць здольны толькі пралетарыят; уратаваць чэлюскінцаў ад гібелі здольна была толькі краіна Саветаў, дзе мільёны працоўных пад кіраўніцтвам бальша віцкай партыі, гэта—адзін магутны дружны калектыў, у якім кожны гатоў аддаць сваё жыцьцё за сваіх таварышоў—працоўных, за сваю вялікую сацыялістычную Савецкую бацькаўшчыны, дзе ўрад дыктатуры пралетарыяту дбае пра кожнага працоўнага і не шкадуе ніякіх сродкаў калі трэба ратаваць іхняе жыцьцё.

Гераічная барацьба чэлюскінцаў з стыхіяй паўночы, самаадданыя ўчыны лётнікаў па выратаваньню чэлюскінцаў зьяўляецца новай вялікай перамогай на фронце сацыялістычнага будаўніцтва, вялікім дасягненьнем савецкай тэхнікі.

Усе лётнікі, якія ратавалі чэлюскінцаў узнагароджаны ордэнам Леніна і прысвоена ім назва «Герояў Савецкага Саюзу!» Усе чэлюскінцы—104 чалавекі — узнагароджаны ордэнам «Красная Зьвязда».

## Першы начны калгасны санаторы

У калгасе імя Сталіна, Астрашыцка-гарадзецкага сельсавета ў БССР у вясковай хаце абсталявана памяшканьне пад начны калгасны санаторы.

Гэты начны санаторы ставіць сваёй задачай папярэджаньне разьвіцьця сухоты ў фізычна-аслабленых калгасьнікаў шляхам перыядычнага догляду іх праз санаторна-гігіенічнае лячэньне без адрыву ад працы.

Скончыўшы работу, калгасьнік прыходзіць у санаторы, зьнімае ўсю сваю вопратку, прымае душ, надзявае чыстую бялізну і спэцыяль на зручны гарнітур, атрымлівае сыты абед або вячэру, праводзіць рэшту дня за культурнымі забавамі, і раніцой, падмацаваўшы сябе адпаведнымі фізычнымі працэдурамі і гарачым сьнеданьнем, адпраўляецца на работу.

Гэты тып лекава-прафілактычнай супроцьсухотнай установы, шырокай сеткай разгорнуты ва ўсіх прамысловых гарадах Савецкага Саюзу і ў БССР, у поўнай меры апраўдаў сябе за гады актыўнай барацьбы з сухотай за часы Савецкай улады і карыстаецца шырокай папулярнасьцю сярод рабочых.

Стварэньне начнога КАЛГАСНАГА санаторыя зьяўляецца каштоўным досьледам прасоўваньня нашых прафілактычных установ у сацыялістычную вёску і мае ня толькі мясцовае, але агульна-саюзнае значэньне.

Мэдычнае абслугоўваньне калгаснага санаторыя ўскладзена на дактароў сухотнага санаторыя «Чырвоны Окцябр», які знаходзіцца на адлегласьці 1 кілёмэтра ад калгаса імя Сталіна і ў якім доктар-спэцыяліст праз кожныя шэсьць дзён праводзіць рэнтгенаўскае абсьледваньне калгасьнікаў.

---

Гітлер рыхтуе крывавы суд над правадыром нямецкага пралетарыята тав. ЭРНСТАМ ТЭЛЬМАНАМ.

Гэта—ўдар скіраваны процiў Камуністычнай партыі Нямеччыны, якая стаіць на перадавых пазыцыях барацьбы з нямецкім фашызмам у інтарэсах усяго міжнароднага пралетарыята.

Рабочыя і сяляне ўсяго сьвету вядуць бурную акцыю пратэста, дамагаюцца вызваленьня тав. ТЭЛЬМАНА.

І мы, працоўныя Заходняй Беларусі павінны выканаць свой інтэрнацыянальны клясавы абавязак. Далучым свой голас пратэсту. Арганізуем масавыя сходы, дэманстрацыі пад лёзунгам:

**ВЫЗВАЛІЦЬ ТЭЛЬМАНА!**

**ВЫЗВАЛІЦЬ УСІХ ПАЛІТЫЧНЫХ ВЯЗЬНЯЎ ПОЛЬШЧЫ І НЯМЕЧЧЫНЫ!**

# Жанчына ў калгасе—вялікая сіла

## Будуюць новае жыцьцё

«Жанчына ў калгасе — вялікая сіла». Гэтыя словы правадыра партыі т. Сталіна пацьвярджаюцца штодзеннай практыкай калгаснага жыцьця.

10-га чэрвеня праходзіў у гарадзкім тэатры ў Мазыры зьлёт ударніц калгасных і савгасных палёў і лепшых актывістак аднаасобніц Мазыршчыны. У зьлёце прымала ўдзел 250 лепшых прадстаўнікоў новай вёскі сацыялістычнага Палесься. Пераразьдзіліся людзі. Іх упартая праца зьмяняе выгляд Палесься. Праца жанчыны-паляшучкі стала нароўні з мужчынай. Жанчына — старшыня калгасу, жанчына—брыгадзір, жанчына—зьвеньнявод (кіраўнік часткі брыгады) і інспектар якасьці працы, конюх і загадчык фермы — вось аблічча новай жанчыны Палесься.

Жанчына прымае ўдзел ва ўсім і для гэтага ёй створаны ўмовы. У калгасах раёну працуе 66 дзіцячых садоў і пляцовак. У 93-х калгасах працуюць яслі. Больш 4 тысяч дзяцей налічваецца ў гэтых дзіцячых інстытуцыях.

З трыбуны зьлёта выступала 20 жанчын і сьпіс выступаючых далёка ня вычарпан. Усе яны гаварылі аб справах у калгасе, аб сяўбе, праполцы, сенакосе, аб падрыхтоўцы да ўборкі і сенакашэньні, аб яслях, дзіцячых садах і пляцоўках, дзяліліся вопытам.

У калгасе «Рухавік рэвалюцыі» лепшыя калгасьніцы-ударніцы Цітова і Коласава сумесна з мужчынамі працавалі на конях — аралі, баранавалі, вазілі гной. Яны-ж удзельнічалі ў буксірнай брыгадзе ў часе сяўбы ў адстаючым калгасе «Авангард».

А вось калгас «Новыя Халоднікі». Тут большасьць жанчын. У калгасе 67 гаспадарак, а працаздольных мужчын толькі 18. Тут рукамі жанчын робіцца ўсё. Жанчыны аруць, барануюць, возяць гной, хлеб, папраўляюць дарогі. Калгас «Новыя Халоднікі» адзін з перадавых зоны дзейнасьці МТС (машына-трактарнай станцыі, якая апрацоўвае сваімі с.-г. машынамі і трактарамі калгасныя палі за невялікую плату). Зараз у калгасе ўдарная работа, усе ў полі і на сенакосе, дома засталіся старыя і дзеці.

Мяняюцца жанчыны Палесься. Яны сумесна з мужчынамі будуюць новае калгаснае жыцьцё.

## Калгасьніцы на полі, дзеці ў яслях

Акружаная з усіх бакоў квітнеючым садам стаіць памяшканьне дзіцячых ясьляў калгаса імя Молатава, Чырвонапольскага сельсавета, Магілеўскага раёна.

Вялізарныя вокны, пабеленыя чыстыя сьцены, шмат сонца і паветра. У шматлікіх пакоях гэтага будынку чуцен гучны сьмех і вясёлы крык 26 калгасных дзяцей.

Дзеці прыходзяць рана—у 7 гадзін, калі бацькі зьбіраюцца на поле. Тут іх адразу пераапранаюць, даюць сьнеданьне. Пасьля сьнеданьня арганізаваная работа. Малюкоў розных птушак або разам будуюць што-небудзь, практыкуюцца на агароднай рабоце. Няпрыкметна прыходзіць абед. На абед суп малочны, каша, або смажаная бульба, смачна прыгатаванае мяса, халаднік і інш.

Пасьля абеда — гадзіна спакою — усе сьпяць. Калі зойдзеш, дык зьдзівішся, куды зьнік гоман двух з палова дзесяткаў крыклівых дзяцей. Дзеці прывучаны да дысцыпліны. Раз гадзіна сна, то трэба спаць. І памыўшыся ля маленькага ўмывальніка, кожнае ідзе ў свой ложак.

У тры гадзіны падвячорак—хлеб з маслам, або яшчэ штось. Пасьля—вольныя гульні, экскурсіі. Экскурсіі бываюць розныя. Нядаўна дзеці хадзілі глядзець трактар.

На вячэру дзецям даюць кашу з малаком. Ідучы з работы, бацькі забіраюць дзяцей.

У яслях дзеці адчуваюць сябе вельмі добра і калгасьніцы спакойна працуюць на полі.

## НЕЎГАМОННАЯ ДЗЯЎЧЫНА

### (СМАЛЯВІЦКІ РАЁН).

Калі Ніну выбіралі брыгадзірам, многія, пасьмейваючыся, упікалі:

— Знайшлі каго. Што яна ў гаспадарцы разумее? Лыжкі-б ёй мыць ды ля печы ўпраўляцца...

Нагаспа-а-да-рыць...

Прыкра было слухаць Ніне насьмешкі ды кпіны вясковых падкулачнікаў.

Ніна Круг ужо чацьверты год як працуе ў калгасе. За прыкладную работу яе паслалі ў раён на курсы. Там яна атрымала неабходныя веды, навучылася грамаце.

Ніна стала брыгадзірам. Няветліва сустрэла яе брыгада № 2. Кожны з калгасьнікаў ведаў, што Ніна актывістка, што яна і на сходах можа пакрыць і ў газэтцы працягнуць. Гэтага і баяліся многія. І калі ўспаміналі пра Ніну, казалі:

— Ото-ж неўгамонная дзяўчына. Усюды наперад ёй трэба.

У брыгадзе № 2 якраз ня ўсё у парадку было. Прывыклі тут жыць сваім адумам. Як хто хацеў, так і рабіў. А на работу выходзілі, калі хто не ленаваўся ўставаць.

Тады брыгада № 2 лічылася самай адсталай у калгасе «Колас», Варатоўскага сельскага савету. Ня было надзеі, што яна ўправіцца з сяўбой. А яшчэ брыгадзірам, казалі, дзяўчыну паставілі...

* * *

Дні ішлі. Быў самы разгар палявых работ. Брыгадзе № 2 трэба было засеяць 112 гектараў яравых. Надыходзілі напружаныя работы. Кожнага дня, калі вячэрні змрок патухаў у просіні тумана і на зямлю апускаліся буйныя кропкі расы, Ніна доўгімі гадзінамі праседжвала ў раздум'і. Яе галаву непакоілі думкі, як вывесьці брыгаду з прарыву.

Перш за ўсё трэба было ўмела расставіць людзей на ўчастках, узьняць дысцыпліну.

З гэтага і пачала Ніна. Быў абвешчан выхад на работу ў 6 гадзін раніцы. За кожным калгасьнікам замацавалі каня, збрую і інвентар. Брыгаду разьбілі на зьвеньні, прымацавалі ўчасткі зямлі. Ніна стала патрабаваць дысцыпліны і выкананьня заданьня. А заданьне кожнае зьвяно атрымлівала яшчэ з вечара.

Усё гэта разам узятае рабіла штуршок наперад да хутчэйшага сканчэньня сяўбы. Роўна да 10 мая быў засеян апошні гектар бульбы.

* * *

— Праполка ў маёй брыгадзе распачата з 25 мая. 20 жанчын са сваёй брыгады я разьбіла на чатыры зьвеньні. Кожнаму з іх адведзен свой участак праполкі. У нас арганізаваны два камсамольска-маладзёжныя зьвеньні: адно з дзяўчат, а другое з хлапцоў. Усе яны паміж сабою спаборнічаюць, але зьвяно Варсоцкай Вольгі абганяе ўсіх. Тут усе дзяўчаты перавыконваюць па праполцы норму на 10 сотак. Мы ўжо закончылі першую праполку пшаніцы, ільну, ячменю, прапалолі 17 гектараў аўса і паўтара гектара агароду.

Так Ніна дакладвала 9 чэрвеня раённаму зьлёту жанчын-ударніц аб сваёй брыгадзе.

— Я ўпаўнаважана заявіць зьлёту, —сказала Ніна, — што ўборку мая брыгада правядзе хутчэй, чым сяўбу.

— Глядзі, якая жвавая дзяўчына, — чуліся галасы дэлегатаў.

— Маладая, а парадак вунь як паставіла ў брыгадзе! Маладзец дзяўчына!

# НЯХАЙ КОЖНАЕ СЛОВА ВАШАГА ТВОРУ БУДЗЕ КУЛЯЙ Ў СЭРЦА ВОРАГА

## УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

ДАРАГІ ДРУГ!

Так вельмі хочацца, каб ты гэты мой ліст абавязкова атрымаў! Ня гледзячы на ўсялякія граніцы, насупракі таму, што яны нас аддзяляюць. Гэтак хочацца табе перадаць хоць частку таго, што я бачыў і чуў за апошнія пару дзён.

Дарагі! Я цяпер у Менску на першым усебеларускім зьезьдзе пісьменьнікаў. Адчуваю сабе нібы раптам падкінутым хваляй на якіх небудзь сотні мэтраў узвыш і адтуль, з гэтай вышыні, бачу нашу літаратуру там за мяжою, у Зах. Беларусі такою маленечкай, убогай. А тут перада мной адчынілася такая шыр, магутнасьць, што словамі не перакажаш. Але пастараюся, як мага расказаць, па парадку.

### Урачыстае адчыненьне зьезду

Адбылося яно ў Дзяржаўным беларускім тэатры ў Менску. На сцэне, у прэзыдыуме, селі найлепшыя пісьменьнікі Сав. Беларусі: Александровіч, Колас, Броўка, Лынькоў, Купала, Харык, Галавач, прадстаўнікі расейскіх пісьменьнікаў: Бахмецяў, Лідзін і інш., польскі паэт Бруно Ясенскі, дэлегаты пісьменьнікі Заходняй вобласьці, з Мардвы, народны камісар асьветы т. Чарнушэвіч і шмат яшчэ хто.

Увага да зьезду аграмадная. З усіх куткоў Сав. Беларусі прыбылі дэлегаты з фабрык, калгасаў. Зьезд віталі такжа прадстаўнікі Чырвонай арміі. Гэта ня былі толькі фармальныя ўрачыстыя прывітаньні. Каб ты чуў, як асабліва менскія рабочыя прад'яўлялі свае дамаганьні да пісьменьнікаў!

— Хочам, каб вы, пісьменьнікі, нам далі мастацкія творы аб нашым фабрычным жыцьці; каб наша моладзь, якая ня ведала капіталістычнай эксплёатацыі, зразумела, што тое жыцьцё, якое мы на Сав. Беларусі цяперака творым—гэта зусім новае жыцьцё.

Так рабочы завода імя Варашылава ў Менску наказваў пісьменьнікам. Ну, дзе, скажы, дзе, у якой краіне пісьменьнік мае магчымасьць гэтак цесна быць зьвязаным з сваім чытачом? І гэта ня толькі на зьезьдзе. Аказваецца, што на фабрыках і калгасах, у Чырвонай арміі маюцца такія літаратурныя гурткі, якімі кіруюць найлепшыя пісьменьнікі. Толькі падумаць, колькі сапраўдных маладых талентаў у нас марнуецца, што ня могуць выбіцца «у людзі». А тут, калі ласка, маеш ахвоту пісаць? — пішы, уступай у літаратурны гурток, вучыся, пытайся парады у сапраўднага пісьменьніка. Адным словам, усе дарогі перад табою адкрыты.

### Беларуская сацыялістычная літаратура пад апекай Савецкага ўраду

Наогул, што кідаецца вельмі ў вочы — гэта аграмадная дбайнасьць, якой карыстаюцца савецкія пісьменьнікі з боку Савецкага ўраду. Урад займаецца ня толькі зьместам і якасьцю літаратуры, але клапаціцца аб тым, каб пісьменьнікі жылі спакойна, сыта, каб мелі добрыя кватэры, каб пашыралі свой кругавід, каб былі зьвязаны з працоўнымі гушчамі.

Асабліва яскрава на зьезьдзе відаць было, якія ўзаемаадносіны існуюць паміж пісьменьнікамі і ўрадам, калі выступіў тав. Галадзед— старшыня Савету Народных Камісараў. Увайшоў ён сам няпрыкметна, просты (у нас бы гэтак старшыня міністраў ніколі не адважыўся выехаць на цэнтральную вуліцу, у белы дзень, адзін у адкрытым самаходзе, бяз ніякай ахраны), прывітаўся з некаторымі знаёмымі таварышамі за руку і толькі калі ўсё ўбачылі на трыбуне тав. Галадзеда і пачулі яго прывітальнае слова, сабраўшыяся пісьменьнікі яго сустрэлі бурнай авацыяй.

### АБ ЧЫМ ГАВАРЫЎ т. ГАЛАДЗЕД?

Аб чым гэта будзе гаварыць старшыня ўраду да пісьменьнікаў—думаю я сабе. Але тут чую яго словы: «Хтось гаварыў, што я буду мець прамову. Не, я хочу проста з вамі пагутарыць».

— Яшчэ лепш, калі ласка—чутно з розных бакоў адказ пісьменьнікаў.

— Я хачу з вамі падзяліцца сваімі думкамі наконт літаратуры Савецкай Беларусі...

І тав. Галадзед пачаў з таго, што ён бачыў і чуў падчас свайго пабыту ў калгасах, на маёўках, якія калгасьнікі ладзілі пасьля таго, як канчалі сеяць.

— Маёўка калгасу — гэта новае сьвята новага селяніна Сав. Беларусі. Калісь сяляне—дробныя ўласьнікі мелі свае розныя сьвята—тройцу і г. п., калі за шмат кілёмэтраў прыходзілі ў царкву ці касьцёл. Сёньня яны маюць новыя калгасныя сьвяты — сьвята калектыўнай працы. Сёньня селянін, які не ўступіў у калгас—апраўдываецца чаму ён не ў калгасе, ён сароміцца бо адчувае што ён адстае ад агульнага жыцьця.

Нашы пісьменьнікі павінны памятаць, што цяпер павінны тварыць для гэтага новага чалавека, што новы чалавек патрабуе высокаякасных мастацкіх твораў. Мне-б хацелася, каб нашыя пісьменьнікі не адставалі ад жыцьця, а жылі ўсім тым новым, што творыцца ў нашым багатым жыцьці і каб гэта адчувалася ў іх творах.

Другое, што мне хацелася-б, гэта наступнае: калісь Беларусь лічылася шэрай, нэндзнай. І пісьменьнікі толькі аб балоце пісалі, але бальшавікі здолелі перарадзіць Беларусь і зрабілі з адсталай цёмнай—фабрычную, багатую, пісьменную краіну.

І вось тут тав. Галадзед зусім проста, але яскрава і зразумела разгарнуў перад зьездам малюнак блізкай багатай будучыні, якая адчыняецца перад Савецкай Беларусьсю, які ажыцьцяўляецца другой пяцігодкай. У БССР будуюцца новыя фабрыкі, на якіх з бульбы і торфу будзе вырабляцца сьпірытус, сынтэтычны каўчук (штучная гума) пластмаса (з якой вырабляюцца гузікі, патэфоны тэлефоны) і інш. вырабы. Для гэтых мэтаў апрацоўка торфу цяпер вядзецца па ўсіх правілах навейшай тэхнікі. Будуюцца таксама вялікія льняныя фабрыкі і іншыя. Савецкая Беларусь, з краіны, у якой пераважалі дробныя майстэрні, ператварылася ў краіну, якая налічвае на сёньняшні дзень 114 тысяч індустрыяльных рабочых, з іх 60% беларусаў.

Мне хацелася бы—працягвае далей тав. Галадзед—каб пісьменьнікі самі бачылі і жылі гэтымі перспэктываім і сваімі мастацкімі творамі памаглі-б нашым працоўным гушчам зразумець усю шырыню перспэктыў, якія мае перад сабой Сав. Беларусь. Кожны будаўнік сацыялізму павінен бачыць перад сабой будучыню,якую ён сам будуе, ведаць за што змагаецца.

Далей тав. Галадзед, як гэта толькі можа зрабіць чалавек, якому даная справа зьяўляецца роднай, блізкай і знаёмай, даў агульную ацэнку ўсёй новай літаратурнай творчасьці.

— Маем чым пацешыцца — пару год таму назад беларуская літаратура была засьмечана рознымі нацыянал-дэмакратамі, а цяпер маем сваю родную савецкую літаратуру.

Зьезд слухаў, зацяўшы подых. У вачох дэлегатаў заіскрыліся aганькі—творчыя аганькі таго энтузіязму, з якім рабочыя гінуць, змагаючыся з уладай капіталістаў, з якім рабочыя будуюць сацыялізм, з якім мастакі даюць свае найлепшыя творы.

* * *

На зьезьдзе абгаварваліся ўсе галіны літаратурнай творчасьці—паэзія, проза, драматургія, крытыка, дзіцячая літаратура, а таксама праблемы тэматыкі, мовы, формы і г. д. І трэба табе сказаць, што як прамовы, так і дыскусія адзначаліся асабліва высокім узроўнем разьвіцьця пісьменьнікаў і глыбокім зразуменьнем жыцьцёвых працэсаў.

АБ БУЙНЫХ ЗДАБЫЧАХ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БССР сьведчаць хаця-б наступныя лічбы: у адным толькі мінулым 1933 г. выдадзена 109 беларускіх літаратурных твораў. Навуковых прац на беларускай мове за той жа год выдадзена 165. Агулам выдадзена ў 1933 г. 1100 кніг, брашур і падручнікаў на беларускай мове—з вялізарным накладам — 9 мільёнаў і 367 тысяч экз. Пэўна, столькі беларускіх кніг ня выдана ні на Заходняй Беларусі, ні ў другім краі па-за межамі БССР за ўсю гісторыю беларускага народу. Хіба-ж гэтыя лічбы ня сьведчаць яскрава аб тым, што толькі рабоча-сялянская савецкая ўлада і дыктатура пралетарыяту забясьпечвае росквіт беларускай культуры — нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу? Тое самае датычыць культуры ўкраінскай, яўрэйскай, літоўскай — словам культуры ўсіх народаў.

Усе выступаўшыя на зьезьдзе лепшыя пісьменьнікі як Лідзін, Бахмецяў, Бруно-Ясенскі і інш. падкрэсьлілі, што пісьменьнікі Савецкай Беларусі да свайго першага зьезду прыйшлі з багатым багажом. Пералічваліся такія творы як «Дрыгва»— Коласа, «На чырвоных лядах»— Лынькова, «Канец дружбы»—Крапівы, творы Броўкі, «Над рэкой Арэсай»—Янкі Купалы,творы Александровіча, Харыка, «Чайльз-Гарольд з Дзісны»—новы твор Кульбака і шмат інш.

УСЕ ВЫСТУПАЎШЫЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ АДЗНАЧАЛІ, ШТО ЛІТАРАТУРЫ САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ ЎДАЛОСЯ ПАДНЯЦЦА НА ГЭТКУЮ ВЫШЫНЮ, ДЗЯКУЮЧЫ ТАМУ ТОЛЬКІ, ШТО НАЙЛЕПШЫЯ ЯЕ СІЛЫ ЗМАГАЛІСЯ І ПЕРАМАГЛІ НАЦДЭМАЎСКУЮ ЗАСЬМЕЧАНАСЬЦЬ І ДАГЭТУЛЬ ЗМАГАЮЦЦА З НАЦДЭМАЎСКАЙ СПАДЧЫНАЙ ДУБОЎКІ І ЯМУ ПАДОБНЫХ.

Зьезд пісьменьнікаў рабіў уражаньне поўнай сапраўднай шчырай лучнасьці ўсіх творчых сіл на літаратурным фронце. Тут мы бачым і шэраг новых таленавітых паэтаў, прозаікаў, шэраг старых народных пісьменьнікаў, якія сябе перавыхоўваюць, шэраг пісьменьнікаў—здатных сіл, якія прыбылі з заграніцы— з Польшчы, Нямечыны, Амэрыкі, якія там або ня мелі магчымасьці разгарнуць сваёй літаратурнай дзейнасьці, або падпадалі пад уплыў упадніцтва. І ўсе яны тут ахоплены аднэй мэтай, аднэй думкай: даць новаму чалавеку Савецкага Саюзу літаратурныя творы найлепшай якасьці.

Што яшчэ мне асабліва было цікава на зьезьдзе—гэта з якой цьвердасьцю пісьменьнікі ацэньваюць і разумеюць усю глыбіню задач, якія стаяць перад імі, гэта непрымірымая крытычнасьць да сваіх твораў.

«Не зазнавацца, нам яшчэ шмат бракуе» — гаварылі пісьменьнікі ў адзін голас. «Мала, каб паэт-пісьменьнік быў таленавітым чалавекам, ён павінен быць высока культурным чалавекам—ён павінен моцна працаваць над сабой, мы для гэтага маем усе магчымасьці». НАШ РАБОЧЫ, НАШ КАЛГАСЬНІК ГЭТА ЎДЗЕЛЬНІК БУДАЎНІЦТВА САМАЙ ВЫСОКАЙ КУЛЬТУРЫ, трэба каб нашыя творы былі самымі высокаякаснымі ў сьвеце». Вось што адзін за адным заяўлялі на зьезьдзе пісьменьнікі. І адчувалася, асабліва бяручы пад увагу таварыскую, але глыбокую і строгую крытыку і выманьне да сабе і др. пісьменьнікаў, што гэта ня толькі словы, але глыбокае зразуменьне сваіх абавязкаў.

Шмат пісьменьнікі спыняліся над тым, як адкідаючы стары хлам нацдэмаўскіх Дубовак і інш., як і чаму вучыцца ў сапраўдных старых клясыкаў, старых майстраў пісьменьніцтва—Шэксьпіра, Гетэ, Шылера, Пушкіна і іншых, і чаму і як вучыцца ў буйнейшых пісьменьнікаў Савецкага Саюзу, як Горкі, Шолахаў і інш. Выступленьні пісьменьнікаў сьведчылі аб тым, што яны асвойваюць і гэтае мастацтва, мастацтва вучыцца ў другіх.

### Зьезд—дэманстрацыя міжнароднага братэрства

Першы зьезд пісьменьнікаў быў сапраўды інтэрнацыянальным зьездам. На ім абгаварваліся, ацэньваліся ня толькі справы беларускай літаратуры, на ім давалася шырокая ацэнка ўсёй яўрэйскай, польскай, літоўскай і расейскай літаратуры, якая выходзіла ў Савецкай Беларусі.

Дэлегаты першага зьезду—гэтыя барацьбіты за перадавую культуру і мастацтва—адчуваюць сябе часткаю вялікай рэвалюцыйнай сям'і, якая змагаецца за сацыялізм. Зьезд атрымаў шэраг прывітальных лістоў і сам паслаў прывітаньні т. Сталіну, пісьменьнікам інш. савецкіх рэспублік выдатнейшым рэвалюцыянерам і др. Аасабліва горача зьезд прыняў прапанову прэзыдыуму — паслаць наступнае ПРЫВІТАНЬНЕ РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ПІСЬМЕНЬНІКАМ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

### Рэвалюцыйным пісьменьнікам ЗБ—

Мы—пісьменьнікі вольнай Савецкай Беларусі, сабраўшыяся на Першы Усебеларускі З'езд, шлем праз мяжу гарачае прывітаньне братам па зброі — рэвалюцыйным пісьменьнікам Заходняй Беларусі. Цяжкія тыя ўмовы, ў якіх вам прыходзіцца жыць і працаваць. Але глыбокая і нявычэрпная крыніца Вашае рэвалюцыйнае сілы і энергіі. Гэта крыніца—ўздым працоўных мас, якіх вядзе на штурм слаўная КПЗБ.

Удасканальвайце сваю зброю, каб кожнае слова Вашага твору было куляй у сэрца ворага. Зрывайце маскі з беларускага нацыянал-фашызму, з Луцкевічаў, Астроўскіх і Ко і паказвайце працоўным іх сапраўдны звярыны твар. Перамога пралетарыята будзе вам узнагародай за вашы геройскія ўчынкі. Недалёкі той час, калі Вы станеце вольнымі піонэрамі на вольнай зямлі.

### Толькі ў СССР росквіт культуры

Шмат яшчэ цікавага мог бы я табе расказаць аб зьмесьце выступленьняў і ацэнцы паасобных пісьменьнікаў, але трэба гэты ліст скончыць. Пастарайся дастаць і прачытаць тыя творы, што я пералічыў у лісьце.

У канцы прыпомнілася мне адна «дробязь», ніяк не магу яе прамаўчаць. У салі паседжаньняў зьезду ў «Доме пісьменьнікаў» вялікімі літарамі красуецца лёзунг: «Пішыце праўду». І колькі разоў мае вочы затрымліваліся на гэтым лёзунгу, столькі разоў я думаў. Толькі тут, толькі ў краіне будуючагася сацыялізму пісьменьнікі поўным голасам могуць сабе сказаць «Пішыце праўду». За гэтую самую праўду гінулі і гінуць найлепшыя перадавыя мастакі Нямеччыны, прасьледуюцца мастакі Польшчы, Амэрыкі, паўсюды, дзе толькі пануе капітал і бізун, там няма месца для праўды, там душыцца праўда, там душыцца кожны, хто прабуе яе вынесьці людзям. Гэты маленькі радок «Пішыце праўду» — гэта сьмелы вызаў усёй гінучай, гніючай культуры капіталістычнага сьвету, гэта сьведак таго, што толькі ў краіне Саветаў магчымы росквіт самай высокай, самай перадавой культуры.

Канчаю. Цісну руку. Бывай. Пішы,

Твой З. М.

# Калгасьнікі Заволжа ў барацьбе з засухай

Палі Заволжа заўсёды цярпелі ад сухавеяў — гэтага сьмярцельнага ворага высокіх ураджаяў. Калгасны лад адкрыў нябачаныя раней магчымасьці барацьбы з гэтым ворагам. Кожны калгасьнік ведае вялікую дапамогу партыі, ураду і асабіста таварыша Сталіна, якая аказваецца Заволжу ў барацьбе з засухай. Усё гэта ўздымае калгасныя масы на нябачаныя дагэтуль чыны па абваднеНЬНЮ калгасных палей Заволжа.

Сёлетняя вясна ў Саратаўскім краі—асаблівая вясна ў справе барацьбы з засухай. Бальшавікі края дабіліся вялікіх посьпехаў у арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў: пасеялі ў два разы хутчэй, чым летась. А скарачэньне тэрмінаў—рашаючы варунак пасьпяховай барацьбы з засухай. Але гэтага мала, трэба захаваць кожную кроплю вільгаці ў зямлі. Гэта добра ўлічваюць калгасьнікі перадавых калгасаў. ПІЦЕРСКІ раён першым у краі закончыў першую праполку каласавых 3 чэрвеня.

Але ня толькі гэтым вычэрпваецца барацьба за вільгаць, за ўраджай. Палі Заволжа яшчэ ня бачылі такіх гераічных высілкаў калгасьнікаў па абваднеНЬНЮ, якія разгорнуты перадавымі калгасьнікамі сёлетняй вясной. Вузор працы паказваюць калгасы Пугачоўскай, Рукапольскай МТС.

Цяпер ўводзіцца абвадняючая сетка ў калгасах Пугачоўскай МТС на плошчы ў 1.440 гектараў, Рукапольскай МТС на плошчы ў 1.200 гектараў. У Пугачоўскай МТС выкапана 169 кубамэтраў земляных работ, пракладзена 14 тыс. мэтраў валаў, 4.160 мэтраў жалобаў, 32 тысячы водацёкаў. Абводненая плошча павялічылася ў параўнаньні з мінулым годам у пяць разоў. Выключнай увагі заслугоўвае той факт, што вялікая частка меліоратыўных работ выканана жанчынамі-калгасьніцамі, бо мужчыны былі заняты на сяўбе. З 2800 чалавек на працах па абваднеНЬНЮ у Пугачоўскай МТС працавала 1.900 калгасьніц. Калгасьніцы працавалі з выключным уздымам і добрасумленнасьцю.

Пры правільным і поўным выкарыстаньні абводненых плошчаў калгасьнікі маюць магчымасьць атрымаць з гэтай плошчы ня менш 20 цэнтнераў (120 пудоў) з гэктара. З ліку лепшых ударнікаў растуць і вылучаюцца кіраўнікі гэтых работ па абваднеНЬНЮ. У калгасах Пугачоўскай і Рукапольскай МТС вылучана 10 кіраўнікоў вучасткаў, якія паліваюцца вадой, 52 брыгадзіра і зьвеньняводы, 320 палівальнікаў. Вера ў перамогу над засухай, вера ў навуку, жаданьне хутчэй выканаць указаньні таварыша Сталіна абператварэньні ўсіх калгасаў у бальшавіцкія і калгасьнікаў у заможных працаўнвікоў сацыялістычнай вёскі аграмадны. Менавіта гэта жаданьне змушае калгасьнікаў Верхазоўскага татарскага калгаса, Ершоўскага раёна, закончыць работу па абваднеНЬНЮ плошчы ў 400 гектараў. З 20 красавіка па 29 мая калгасьнікі сяла Верхазоўкі зрабілі 15 тысяч пагонных мэтраў галоўнага каналу і выбралі для гэтай мэты каля 11 тысяч кубічных мэтраў цьвёрдага грунту.

Верхазоўскія калгасьнікі ўстанаўліваюць цесную сувязь з навуковымі сіламі Усесаюзнага інстытуту абводненай збожжавай гаспадаркі. У гэтым калгасе арганізуецца навукова-дасьледчая база па пытаньнях абваднеНЬНЯ. Моладзь з калгасьнікаў-татар выразіла гарачае жаданьне прыняць непасрэдны ўдзел у навукова-дасьледчай працы. Можна памножыць прыклады гераічнай працы калгасьнікаў Заволжа ў барацьбе з засухай. Яны паказваюць, які аграмадны творчы ўздым у калгасных масах выклікалі словы таварыша Сталіна аб паважнай барацьбе з засухай у Заволжы.

## АСУШЭНЬНЕ БАЛОТ

У Беларусі вызначана асушыць сёлетнім годзе 100 тысяч гект. забалочаных калгасных зямель. 16 тысяч гектараў балот ужо ператворана ў квітнеючыя палі. Калгас «Чырвоны подэр», Слуцкага раёну, поўнасьцю скончыў асушку усіх сваіх забалочаных зямель. У студзенецкім сельскім савеце, Клінцоўскага раёну, дзе ад вымачкі кожны год гіне значная частка пасеваў, меліарацыя вядзецца на плошчы ў 15 тыс. гектараў. На асушку калгасных зямель адпушчана 1 міліён 350 тысяч руб. На работах занята 5 машын для капаньня каналаў.

## РАДЫЁФІКАЦЫЯ

У першым квартале 1934 года па ўсіх раёнах БССР устаноўлена каля 4400 радыё. 50 проц. з іх устаноўлены ў саўгасах і калгасах.

У Капыльскім раёне поўнасьцю радыёфікаваны два калгасы «Октябр» і «Энергія» і саўгас імя Дзяржынскага.

У Аршанскім раёне наладжаны радыёвузел пры саўгасе Усьце. Поўнасьцю закончана радыёфікацыя ўсіх палітаддзелаў МТС.

Арганізаваны таксама 10 міжраённых радыёмайстэрняў (Гомель, Магілеў, Мазыр, Рагачоў, Дзяржынск, Слуцк Рэчыца, і інш).

# Кіеў — сталіца Савецкай Украіны

Кіеў зьяўляецца натуральным геаграфічным цэнтрам Украіны. Пастанова XII зьезду КП(б)У аб пераводзе сталіцы ў Кіеў—дакумэнт гістарычнай важнасьці—падводзіць вынікі вялікаму шляху, які прайшла рабочая кляса і сялянства Украіны, буйнейшым перамогам, атрыманым над ворагамі рабочых і сялян на фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад напорам аб'яднаных сіл расейскіх белагвардзейцаў, наступаўшых з поўдня, і украінскай нацыяналістычнай контр-рэвалюцыі, якая шла з захаду, савецкі ўрад Украіны 15 год таму назад, у жніўні 1919 году, пакінуў Кіеў.

Перанясеньне сталіцы савецкай Украіны з Харкава ў Кіеў — вынік эканамічнага, культурнага, ваеннага ўзросту і ўзмацненьня Савецкай Украіны і Савецкага Саюзу.

Перанясеньне сталіцы з Харкава ў Кіеў адначасна кажа аб тым, што КП(б)У і ўрад Савецкай Украіны яшчэ бліжэй хочуць падыйсьці да шэрагу неадкладных задач, якія стаяць перад краінай Саветаў.

Важнейшай з гэтых задач зьяўляецца далейшы ўздым сельскай гаспадаркі праваўзбярэжжа Украіны. Сельская гаспадарка праваўзбярэжжа больш інтэнсыўная, чым у стэпавай частцы Украіны. Але адначасна яна больш раздроблена і—у сваёй палескай частцы — больш адсталая. Зусім не выпадковым было адставаньне ў часе і тэмпах калектывізацыі на праваўзбярэжжы. Кіраўнічыя кадры сельскай гаспадаркі гэтых раёнаў таксама больш слабыя. Перанясеньне сталіцы ў Кіеў дае магчымасьці партыі і ўраду падыйсьці шчыльна, непасрэдна заняцца ўзмацненьнем калгасаў гэтых важнейшых раёнаў, разьвіцьцём тэхнічных культур, узьняцьцём іх ураджайнасьці.

Пераезд ураду ў Кіеў дасьць яшчэ больш магчымасьці заняцца лёгкай і харчовай індустрыяй, значная частка якой сканцэнтравана ў Кіеўскай, Вінніцкай, Чарнігаўскай і Адэскай вобласьцях, і тым самым забясьпечыць выкананьне рашэньняў XVII зьезду партыі аб разгортваньні вытворчасьці вырабаў шырокага спажываньня.

Нацыяналістычная контр-рэвалюцыя на Украіне неаднакраць рабіла спробы супроцьставіць Кіеў Харкаву. Гэтыя сьляпыя банкроты ня бачылі, як нараджаўся і рос новы, савецкі Кіеў. Кіеў, які страшэнна руйнаваўся ў часах імпэрыялістычнай і грамадзянскай войн, стаў значным індустрыяльным цэнтрам, цэнтрам сярэдняга машына - будаўніцтва і лёгкай індустрыі. Вырасла і мацнела яго пралетарскае насельніцтва. У Кіеве створана вялікая сетка навучальных і навукова - дасьледчых устаноў і інстытутаў. Кіеў павінен стаць і стане паважнай сталіцай пралетарскай Украіны.

# Як жывуць літоўскія працоўныя масы ў Савецкай Беларусі

У кутках Полацкага і Вушацкага раёнаў знаходзяцца раскіданыя невялікімі групкамі некалькі літоўскіх вёсак. Праехаўшы кілёмэтраў дваццаць ад Полацка, бачым ня зусім маленькую літоўскую вёску Усомлі. Па левым баку вёскі цягнецца вялікае возера. Тут маецца 9 двароў. У мінулым годзе тут была адчынена літоўская школа. Але літоўскіх дзяцей маецца толькі 4, дзеля таго школу наведваюць і беларусы. Літоўскія вучні маюць асобныя лекцыі на літоўскай мове.

Праехаўшы вялікія вазёры, рэчкі і буйныя лясы, каля 8 клм ад вёскі Усомлі зноў убачылі літоўскую вёску—Шылайкі, усяго 6 хат. Гэтая вёска ўваходзіць у калгас «Мотор» Тураўлянскага сельскага савету. Калгас стаіць моцна, ураджай меў добры. Калгасьнікі атрымалі на працадзень па 2 кгр. збожжа і па 5 кгр. бульбы. Маюцца такія калгасьнікі, якія выпрацавалі па 380 і больш працадзён.

На 1934 г. калгас засеяў яшчэ больш. У 1932 г. было засеяна 60 гектараў, а ў восені 1933 г. засеяна 90 гектараў. Калгасьнікі ўпэўнены, што ў 1934 г. атрымаюць яшчэ лепшы ўраджай чым у 1933 г.

У гэтым жа самым Глыбачанскім сельскім савеце знаходзяцца яшчэ тры літоўскія вёскі: Рукшына, Якаўка і Глінікі. Глінікі самая вялікая сярод іх, у ёй маецца 14 двароў. Тут маецца літоўская нацыянальная школа з 9 вучнямі. Гэтая вёска ўваходзіць у інтэрнацыянальны калгас «Ваяўнічы Бязбожнік» і складае асобную брыгаду вёскі Глінікі. Гэтая брыгада вёскі Глінікі—першая брыгада ва ўсей працы калгаса. Лепшыя 7 ударнікаў атрымалі прэміі. Сярод калгасьнікаў маюцца такія, якія выпрацавалі па 600 працадзен.

За добрую працу брыгады калгас ёй выдае 75 руб. для ўстаноўкі радыё.

У гэтых калгасах ужо зразумелі неабходнасьць добрасумленнай працы. Яны зразумелі, што той, хто больш працуе, той больш і зарабляе. Калгас зрабіў ужо не малы крок, каб стварыць калгас бальшавіцкім, а кальгасьнікаў заможнымі. Калгас «Ваяўнічы Бязбожнік» у параўнаньні з 1932 г. значна ўзбагаціўся. Вясной 1932 г. плошча пасева збожжа была 286 га, а ў 1933 г.—332 га. Сена ў 1932 г. было скошана з 206 га, а ў 1933 г.—з 445 га. У 1932 г. было прададзена дзяржаве збожжа і бульбы 15 цэнтн., а ў 1933 г. — 253 цэнтн. Дойных кароў было ў 1932 г.—22, а ў 1933 г.—46 і 31 цёлкі. Колькасьць двароў у калгасе павялічылася з 107 да 115.

Але ня толькі гэты адзін калгас так мацнее. У сёлетнім годзе у гэтых раёнах, як і ўіншых мясцовасьцях Савецкага Саюзу, можна была бы прывесьці у прыклад шмат іншых падобных калгасаў.

Г. МІЧУДА.

# Літоўскія рабочыя клюбы

Ужо шмат гадоў як існуюць у Ленінградзе і Маскве рабочыя літоўскія клюбы, якія вядуць культурнасьветную работу сярод працоўных літоўцаў на іх роднай мове.

У абодвых клюбах маюцца бібліятэкі, насьценныя газэты драматычны і харавы гурткі, а таксама гурткі па вывучэньню літоўскай мовы, літаратурныя, карэспандэнцкія і др. У клюбах ладзяцца даволі часта вечары, на якіх выступаюць клюбныя драматычны і харавы гурткі на літоўскай мове, робяцца рэфэраты на розныя палітычныя і культурныя тэмы на роднай мове. Акрамя гэтага клюбы арганізуюць экскурсіі ў розныя музэі, якія маюцца ў горадзе і за горадам, таксама масавыя экскурсіі за горад. Клюбы выступаюць на інтэрнацыянальных вечарынах са сваімі нацыянальнымі нумарамі.

Але ў сваёй культурна-масавай працы клюбы, актыўна ўдзельнічаючы ў палітычным жыцьці і ў сацыялістычным будаўніцтве Савецкага Саюзу не забываюць таксама і аб сваіх братох, якія знаходзяцца за межамі СССР і церпяць усе пакуты капіталістычнага ладу. Штогод клюбы праводзяць кампанію па збору складак для літоўскага рабочага друку ў фашыстоўскай Літве, на якія вельмі ахвотна адклікаюцца ня толькі працоўныя літоўцы, але і працоўныя іншых нацыянальнасьцяў.

Нядаўна ў Маскве адбыўся вялікі літоўскі вечар, прысьвечаны 15 годдзю арганізацый Кампартыі Літвы. На гэтым вечары прысутнічала звыш 1.000 чалавек. Прысутнічалі прадстаўнікі Комінтэрну, якія выступалі з прывітаньнямі. Гэты вечар акрамя ўсяго даў 2.000 руб. на карысьць літоўскага рабочага рэвалюцыйнага друку.

Вясной г.г. масквічы прыехалі ў Ленінград са сваім драматычным гуртком які сыграў у Ленінградзе п'есу «За Саветы ў Літве». На вечары, які адбыўся пасьля гэтага ў чэсьць прыезду маскоўскага літоўскага клюба, быў заключан дагавор сацыялістычнага спаборніцтва паміж гэтымі клюбамі. На гэтым вечары быў таксама зроблен даклад аб становішчы ў фашыстоўскай Літве. Акрамя таго, быў зроблен даклад аб літоўскай савецкай літаратуры, абгаварвалася пытаньне аб працы літаратурнага гуртка, аб дапамозе і кіраўніцтве гэтым гуртком з боку літоўскага літэратурнага і навуковага журнала «Прыекалас», які выходзіць у Маскве, аб неабходнасьці браць удзел у літаратурным лістку газэты Раудонасіс Артояс», выдаваемай у Менску і неабходнасьці добра паставіць насьценныя клюбныя газэты.

# ВЫХАВАНЬНЕ ДЗЯЦЕЙ

## У НАШАЙ ШКОЛЕ

Літоўская аднакамплектная школа ў Барсееве да 1-га мая скончыла вучэбную праграму ва ўсіх групах.

З 1-га мая была праведзена адпаведная работа з дзяцьмі і іх бацькамі аб правядзеньні праверкі ведаў, атрыманых вучнем за год.

У выніку праверкі ведаў учняў, усе вучні перайшлі у старэйшыя групы. 30-га мая быў склікан агульны сход вучняў і бацькоў, дзе абгаварвалася пытаньне аб выніках навучальнага году.

Пасьля гэтага ўсе дзеці з бацькамі весела з песьнямі разышліся па хатах. Школы пачалі рыхтавацца да новага навучальнага году. Нарыхтованы дровы, адрамантаваны печы, прымаюцца захады, каб дзеці мелі цеплыя сьнеданьні. Вучнямі засеяна 1,5 цэнтн. бульбы ў агародзе школы. Зарэгістраваны ўсе дзеці ўзросту з 7 да 14 гадоў—каб у наступным навучальным годзе ўсіх іх ахапіць школаю.

ДЕГЕЛЕВІЧ.

## ДЗІЦЯЧЫЯ ЯСЬЛІ Ў ЛІТОЎСКІМ КАЛГАСЕ

Калі пачалася пасадка бульбы ў літоўскім калгасе «Чырвоны Трактар» былі адчынены дзіцячыя ясьлі, якія аслабанілі для працы ў калгасе шмат жаночых рук. Дзіцячыя ясьлі працавалі і ў мінулым годзе, але у гэтым годзе яны працуюць значна ляпей. У мінулым годзе было слаба пастаўлена выхаваньне дзяцей, у гэтым годзе тав. МАЛІШЭЎСКАЯ змагла ляпей паставіць работу. Дзяцей у яслях маецца 22. Дзеці маюць 4 разы ў дзень харчаваньне. Догляд за дзяцьмі добры, даглядаюцца яны ў чыстаце. Тав. Вера СТУНДЗІС, якая скончыла спэцыяльныя курсы па выхаваньню дзяцей, ня кепска паставіла работу. Дзеці выхоўваюцца ў духу камунізму.

У ясьлях добры догляд. Кожнае дзіце добра ведае свой рушнік, павешаны каля рукамойніка, на адпаведнай вышыні. Сярод дзяцей ня чутна лаянкі і дракі.

# ШУЦБУНДАЎЦЫ Ў БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ

Напружана ідуць мінуты...

Станцыя Негарэлае гудзе людскім прыбоем. Вось прышлі калгасьнікі. Яны з калгасу «Перамога» прама з калгаснага сьвята, прысьвечанага пасьпяховаму завяршэньню сяўбы.

Доўгім рознакаляровым патокам залілі шырокі пэрон удзельнікі сустрэчы, вянком абвілі падмосткі трыбуны. Над галовамі расцьвілі чырвоныя сьцягі.

За паваротам працяжна загудзеў цягнік. Паказаўся экспрэс.

—Ура!—ускалыхнуліся сотні людзей.

З халодным водблескам вокнаў прабеглі першыя вагоны, а потым, нібы выбух, ударыў магутны салют. Выбух галасоў, лес напружаных у салюце рук, сьціснутых у кулакі, полымя чырвоных сьцягаў.

—РОТ ФРОНТ!

—РОТ ФРОНТ!

Цягнік спыніўся. Радасныя воклікі расчуленых шуцбундаўцаў зьліліся ў адзін гул з грамавым «ура», з гукамі аркестра. Незабыўныя хвалюючыя мінуты.

Браты па клясе цьвёрда і пэўна ступілі на зямлю сваёй сацыялістычнай бацькаўшчыны. Нецярпліва пакідалі вагоны. Прагка зьбягалі са сходак у лёгкіх чорных безрукаўках, нават выскаквалі праз вокны. Абнімаліся, цiскалі рукі...

—Рот фронт!

—Прывітаньне героям венскіх барыкад!

Яшчэ 230. 230 герояў барыкадных баёў аўстрыйскага пралетарыята супроць фашызму. 230 байцоў, страціўшых у барацьбе тысячы сваіх таварышоў. 230 байцоў, пацярпеўшых часовае паражэньне, але ня зломленых і гатовых да новых баёў.

Адзіную думку ўсіх прыехаўшых ярка выразіў у сваёй прамове на мітынгу ў Негарэлым шуцбундавец, баец барыкад Майзль.

—Мы прыехалі ў СССР, да вас, ня толькі працаваць на карысьць сацыялізму але і навучыцца, як перамагчы ў пралетарскай рэвалюцыі. Мы яшчэ вернемся да нашых братоў, аўстрыйскіх пролетарыяў, і пераможам у барацьбе за Савецкую Аўстрыю!

Барыкадны баец, шуцбундавец Байер гаварыў, адлюстроўваючы сваімі словамі агульны настрой усіх прыехаўшых:

—Да 12 лютага мы былі ў шэрагах сацыял-дэмакратыі. Але пасьля паражэньня паўстаньня, пасьля здрады сацыял-дэмакратычнымі правадырамі нашай барацьбы, барацьбы пралетарыята, мы зразумелі, што кіраўніцтва сацыял-дэмакратыі не абараняе нашы інтарэсы. І мы, будучы ўжо ў лягерах у Чэха-Славакіі, аб'ядналіся з камуністычнымі таварышамі і разам з імі вялі барацьбу пад рэвалюцыйнымі лёзунгамі адзінага фронту.

Тысячы шуцбундаўцаў, якім не ўдалася вырвацца з крывавых лап фашыстоўскай рэакцыі былі павешаны, расстрэлены, кінуты ў турмы, засуджаны на катаргу. А зьняволеныя ўрадам Дольфуса с.-д. лідэры былі выпушчаны на волю і яны ў знак сваіх вернападданных пачуцьцяў перад фашызмам перавялі Дольфусу 5 мільёнаў шылінгаў сабраных ад рабочых у профсаюзныя касы.

Арганізацыю паездкі шуцбундаўцаў у СССР узяў на сябе МОПР.

На станцыях у Чэха-Славакіі і Польшчы дэлегацыі рабочых прабіваліся да эшалону шуцбундаўцаў, арганізуючы рэвалюцыйныя мітынгі. Частка рабочых была тут-жа арыштавана.

* * *

Цягнік крануўся. Наперадзе — Менск, потым, назаўтра — Масква.

Менск. Тысячы людзей. Зноў незабыўныя мінуты.

Зноў захапляючы момант, калі 230 рук, моцна сьціснутых у кулакі, з сілай падымаюцца ўверх і грымяць магутнае: «Рот фронт!

Зноў як і ў Негарэлым на пэроне застылі стройныя шэрагі шуцбундаўцаў і толькі калыхаюцца чырвоныя сьцягі над шэрагамі герояў барыкадных баёў.

І зноў у прамовах шуцбундаўцаў, у іх воклічах у адказ на прывітаньні пралетарыяў Менску прагучэла прысяга вернасьці справе рэвалюцыі, прысяга гатоўнасьці змагацца разам з рабочай клясаю і калгаснымі масамі Савецкага Саюзу за новыя перамогі сацыялістычнага будаўніцтва.

Шуцбундаўцы ўбачылі сваімі ўласнымі вачыма тое, аб чым ім пісалі іх таварышы, прыехаўшыя ў СССР з першай групай ў канцы красавіка.

Яны былі на сваёй сацыялістычнай бацькаўшчыне.

* * *

Пад грамавое «ура», пад гукі «Інтэрнацыянала» і магутныя воклічы:

—Няхай жыве гераічная аўстрыйская кампартыя!

—Няхай жыве сусьветная пралетарская рэвалюцыя!

—Няхай жыве правадыр сусьветнага пралетарыяту тав. Сталін!

Цягнік з шуцбундаўцамі адышоў на Маскву.

## ЛІТАРАТУРА НАРОДАЎ СССР

Татарская рэспубліка за 15 год выпусьціла звыш 800 назваў мастацкай літаратуры з тыражом у $3^1/_2$ МІЛЬЁНАЎ экзэмпляраў. Казакстан на працягу апошняга пяцігодзьдзя амаль у 25 РАЗОЎ павялічыў тыраж кніг. Таджыкістан за 3 гады —у СЕМ РАЗОЎ.

Сыстэматычна павышаюць выданьні мастацкай літаратуры Якуція, Башкірыя, Дагестан, Адыгея, Осеція. Крымская рэспубліка, якая выдала ў 1922 г. АДНУ кнігу з тыражом 5 тысяч экз., у мінулым годзе выдала ўжо 37 кніг. Усяго-ж з 1922 г. па 1934 г. у Крыму выдана 393 назваў, а з іх 312 на ТАТАРСКАЙ МОВЕ.

На Украіне ў 1913 г. было выдана 176 кніг на ўкраінскай мове, а ў 1933 г.—5200. Грузія выдала за апошнія 3 гады 4500 назваў.

Савецкая літаратура народаў СССР расьце і ідэйна і творча. Лепшыя пісьменьнікі Украіны, Беларусі, Закаўказьзя, Сібіры, Сярэдняй Азіі, Башкірыі выходзяць у першыя шэрагі савецкай літаратуры.

## РАБОЧЫЯ І СЯЛЯНЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ!

**Польскаму фашызму мала турмаў і шыбеніц. Каб уратаваць свае панаваньне, Пілсудзкі па прыкладу Гітлера ўводзіць яшчэ канцэнтрацыйныя лягеры.**

**У Картуз-Бярозе ўжо створаны першы такі лягер. У самым асяродзішчы рэвалюцыйнай барацьбы сялян Берасьцейшчыны акупант пабудаваў КАТАРГУ для многіх тысяч барацьбітоў проціў фашызму, за нацыянальнае вызваленьне.**

**Канцэнтрацыйныя лягеры, гэта зьвястун набліжаючагася нападу на СССР**

**ДА АДПОРУ! ДА БАРАЦЬБЫ!**

**Узмацнім барацьбу з тэрорам—адбіваць арыштаваных! Не даваць іх перавазіць у канцэнтрацыйныя лягеры! Зьнішчаць агарожу навакол канцэнтрацыйных лягераў! Палітычнымі забастоўкамі і дэманстрацыямі адкажам на іх увядзеньне!**

**Не дамо застрашыць нас новай хваляй тэрору! Узмоцнім барацьбу проціў фабрыкантаў, абшарнікаў і іх ураду!**

**Далоў фашыстоўскі ўрад Пілсудзкага!**

**Няхай жыве рабоча-сялянскі ўрад Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Салдацкіх Дэпутатаў у Польшчы і на Зах. Беларусі!**